# ГІСТОРЫІ ВІЛЕНСКІХ ДРУКАРНЯЎ



## САМАЭКСКУРСЫЯ АД ВІЛЕНСКАГА БЕЛАРУСКАГА МУЗЭЮ ІМЯ І.ЛУЦКЕВІЧА

# ЧАМУ ГІСТОРЫІ ДРУКАРНЯЎ?

Хоць цяпер мы жывем у сьвеце інтэрнэту, шмат хто з нас усё яшчэ карыстаецца творамі друкарняў: у кавярні гартаем газэту, часам сядзім з друкаванай кнігай, сябрам з вандроўкі дасылаем паштоўку ці ў студзені вешаем на сьцяну каляндар наступнага году. Гэтыя рэчы сталі для нас звыклай штодзённасьцю, але не заўжды яны такімі былі, і гэта экскурсыя ёсьць пра тое.

2022 год, год выдаўца Францыска Скарыны, пра якога падчас гэтай экскурсыі хутка пачуеце, — выдатная нагода падумаць аб тым, як друк мяняў жыцьці нашых продкаў і як жыцьцё мяняла друк. Гісторыя друку асьвятляе зьяўленьне права, стварэньне нацыянальных ідэяў, грамадзкі супраціў, барацьбу за свабоду ды шмат іншых рэчаў. Аўтарка гэтай кніжачкі спадзяецца, што прагуляўшыся па гэтаму маршруту вы ўбачыце Вільню інакш, і пабачыце ў ёй мноства новых слаёў, якія заўжды ляжаць побач з нашымі штодзённымі шляхамі.

Тут сабраныя, вядома, ня ўсе гісторыі віленскіх друкарняў — усе за дзень не абыдзеш. Ды і шмат што яшчэ не дасьледавана, ня знойдзена... Праз кропкі нашага маршруту мы абыдзем толькі вяршаліну айсбэргу. Але і з яе выдатна бачная каляровая й шматкультурная натура Вільні ды прыроджаная любоў віленчукоў да волі, незалежнасьці, чытаньня.

# МАПА МАРШРУТУ



# 1. ДРУКАРНЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Месца: Stiklių g. 4 (уваход са двара з Ратушнага пляцу)

Бадай кожны ведае, хто такі быў Ёхан Гутэнбэрг: чалавек, які прыдумаў, як замяніць унікатныя рукапісныя кнігі на друкаваныя. Гэтая ідэя асноўна зьмяніла разьвіцьцё Заходняй цывілізацыі: гэта быў першы крок да ўнівэрсальна даступнага чытаньня, без якога сёньня бадай што сябе нават ня можам уявіць. Па-першае, кнігі сталі значна танейшымі. А таксама, паколькі вынахода Гутэнбэрга так спрасьціла стварэньне кнігаў, стала іх магчыма друкаваць на мясцовых мовах - далёка ж ня кожны меў грошай, часу й магчымасьць вучыць у тыя часы асноўную ў Эўропе лаціну.

Тым часам у Вільні мы мелі свайго Гутэнбэрга - Францыска Скарыну. У Вільню Скарына пераяжджае ў пачатку 1520 гадоў, і ў гэтым чырвоным будынку засноўвае першую ва ўсім рэгіёне Ўсходняй Эўропы друкарню. У 1522 годзе тут выдаецца першая кніга ВКЛ: зборнік рэлігійных тэкстаў "Малая падарожная кніжка". Кніжка насамрэч была маленькай, 15 на 10 сантымэтраў, але не з-за недахопу амбіцыяў Скарыны - яна была прызначаная для тых, хто шмат вандраваў, каб проста яе было бы ўзяць з сабою. Далей кніжнік узяўся за выданьне Біблії, якое ня толькі сам перакладаў на старабеларускую, але й сам ілюстраваў.

Дарэчы, друкаваньне было не адзіным талентам Скарыны – й у свой час нават ня самым вядомым. У Празе ён працаваў батанікам ды першы ў Чэхіі выгадаваў цытрусавыя дрэвы. А таксама быў асабістым лекарам біскупа Яна, герцага Альбрэхта ды імпэратара Вэнгрыі Фэрдынанда І. Дасьледчыкі дагэтуль круцяць галовы, якія ж Скарына прыдумляў рэцэпты лекаў – такія асаблівыя, што яго мэдыцынскую практыку так высока цаніла тагачасная арыстакратыя. А вось са скарынаўскімі выдавецкімі тэхналёгіямі азнаёміцца значна прасьцей: у Віленскім музэі энэргетыкі й тэхнікі беларускія мастакі Сьвятлана Петушкова й Андрэй Шарапаў стварылі копію аўтэнтычнага скарынаўскага прэсу – можаце й самі паспрабаваць.

Сваімі выданьнямі Скарына паклаў аснову ўсім іншым гісторыям гэтага шпацыру. Друкаваньне на мясцовых мовах было вялізным крокам да інтэлектуальнай незалежнасьці й самастойнасьці, унівэрсальных вартасьцяў у нашыя часы. А праца Скарыны як перакладчыка, якая часта пра яго размаўляючы застаецца ў суценьнях, сапраўды дазволіла мясцовай інтэлектуальнай культуры ўліцца ў цёк думкі Заходняй цывілізацыі.



## 2. СТАТУТ

Месца: тут жа.

Застанемся каля гэтага будынку для наступнай гісторыі. У гэтым самым будынку ў 1574 запрацавалі друкары ды купцы браты Кузьма й Лука Мамонічы. Невядома, колькі менавіта ў "Доме Мамонічаў" выйшла кнігаў - мо сто, мо восемдзесят. Але мы пагаворым пра адно з найбольш знакамітых іх выданьняў - Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году.

Гэта ня першы статут ВКЛ - але першы друкаваны. Канцлер ВКЛ Леў Сапега падкрэсьлівае гэта на першых старонках кнігі - ранейшыя вэрсыі статуту былі мала каму даступныя, бо распаўсюджваць іх можна было толькі перапісваючы ад рукі. (А гэта ж больш чым 400 законаў!). Але друкаваны статут патрымаць у руках зможа кожны ахвочы.

Мо патрымаць і мог кожны ахвочы, але наўрад ці кожны ахвочы жыхар княства быў дастаткова пісьменны, каб здолець той статут прачытаць. Наша сучаснае права - канстытуцыю - ад статуту адрозьнівае ўстаноўка агульнай роўнасьці. Даводзіцца прызнаць, што статут усё-ткі па-рознаму ацэньваў злачынствы супраць шляхты й звычайных людзей, а і жыхароў княства іншых вераваньняў ды нацыянальнасьцяў абмяжоўваў ад заняцьця дзяржаўных постаў. Быў нават асобны закон, які забараняў габрэям зашмат упрыгожвацца дарагімі мэталамі.

Усё-ткі, статутам гісторыкі звычайна ганарацца - свой набор законаў быў выявай незалежнасьці ВКЛ. Хваляць статут і за ўпарадкаваную лёгіку ў кантэксьце тагачаснага эўрапейскага права. Нарэшце суды й службоўцаў княства яднаў адзін, агульны камплект законаў - гэта азначала моцную й незалежную дзяржаву. У віленскіх ваколіцах ды іншых губэрнях ён дзейнічаў да самага разьдзелу Рэчы Паспалітай - 1840 году.

Як у сучаснай Эўропе вышэйшае месца цяпер займае ангельская мова, так тады займала лаціна. Таму статут ёсьць незвычайнае выключэньне - ён выданы мясцовай старабеларускай мовай. Невыпадкова, тлумачыць Сапега ў прадмове: "Калі якому народу сорамна сваіх правоў ня ведаць, дык тым болей нам, тым хто не чужой якою мовай, але сваёй мае запісаныя правы".

Сучасныя беларусы законы сваёй краіны ведаюць добра, асабліва калі вядзецца пра асобныя пункты крымінальнага кодэксу. Але карысна пацікавіцца заканадаўствам таксама й дэмакратычных краінаў, каб ведаць, якія законы мусяць быць у нашай незалежнай радзіме.



# 3.ДРУКАРНЯ АКАДЭМІІ

Месца: Дзе першапачаткова была друкарня Акадэміі - не вядома, але ў XVI стагодзьдзі яна перасялілася ў навакольлі ўнівэрсытэту, на вуліцу сьв. Яна.

Тут у 1575 годзе пачала сваю працу друкарня Віленскай акадэміі, якой кіравалі гарадзкія езуіты. Гэта была друкарня навуковай літаратуры, але на працягу часу пачала яна друкаваць і літаратурныя творы. А таксама яна першая ў Вільні пачала друкаваць газэты - у 1760-тым тут выйшаў першы нумар Kuryer Litewski. Газэта пісала аб палітычных навінах ды падзеях у горадзе: напрыклад, у адным з першых нумароў можна пачытаць пра спусташальны для Вільні пажар.

Газэты ў нашыя дні, часьцей віртуальныя, цалкам звычайная частка жыцьця - але сапраўды яны адзначаюць складаныя працэсы фармаваньня грамадзкасьці. Вядомы дасьледчык нацыяналізму, палітоляг Бэнэдыкт Андэрсан сьцьвярджае, што газэты маюць адну з цэнтральных роляў у стварэньні супольнасьці. Гэты, як ён кажа, "культурны прадукт", заўжды абавязкова пазначаны дакладнай датай выхаду, злучае чальцоў супольнасьці ў часе: мноства віленчукоў чытае газэту, тыя самыя навіны, тую самую інфармацыю, у той самы дзень. Андэрсан называе газэты аднадзённымі бэстсэлерамі: распаўсюджаныя вялізным тыражом, іншага тыдню (а Kuryer Litewski быў тыднёвікам) ужо не актуальныя.

Неактуальныя, вядома, для тагачасных чытачоў. Сучасныя дасьледчыкі з газэтаў разумеюць, як грамадзкасьці распавядалі пра палітычныя падзеі, як намагаліся фармаваць меркаваньні. Можна знайсьці і сьведчаньні пра гарадзкія падзеі, як у маленькім летапісе. А калі ўжо ў газэтах зьявіліся рэклямы - пра бізнэсы і моды гораду... Толькі так шырока распаўсюджаная рэч як газэта ня надта бераглася - да зьяўленьня практыкі бібліятэкаў, якія зьбіраюць і захоўваюць кожны нумар, газэта была важная толькі вельмі кароткі час сваёй актуальнасьці. Аксюмаран, але найбольш папулярныя кнігі ды газэты найгорш дасягаюць будучых пакаленьняў чытачоў. З першых нумароў першай віленскай газэты ў Эўропе засталося толькі некалькі.



# 4.ЗАБАРОНА ДРУКУ

Месца: Šv. Jono g. 4

Спынімся ля дошкі, якая адзначае друкарню Ёзэфа Завадзкага, дзе выйшлі "Баляды й рамансы" Адама Міцкевіча. Адназначна важнае для віленскай кніжнай культуры месца, але ня толькі з-за Завадзкага. Тут таксама меў сваю друкарню, у 1859 годзе выкупіўшы ад іншага кніжніка Крыстыяна Тэафіля Глюксберга, Адам Ганоры Кіркор - вядомы археоляг, кіраўнік Віленскага музэю старажытнасьцяў, аўтар надзвычай цікавых кнігаў пра Вільню ды яе ваколіцы. Гэта запісы і пра гісторыю, і пра статыстыку, і між іншага пра павер'і віленчукоў: напрыклад верылася, што абрэзкі пазуроў трэба паліць, бо злыя духі з іх зробяць шапачкі й потым будуць зьдзекавацца з уласьнікаў тых абрэзкаў.

Але гэта гісторыя пра менш вядомую дзейнасьць Кіркора. За прагу да незалежнасьці й паўстаньне 1863 году каралася жорстка. Царскія чыноўнікі адчувалі - кнігі ды друк натхняюць людзей ведаць, што воля ёсьць іх прыроджанае права. Забарона на друк літоўскімі літарамі была усталяваная хутка і яе парушэньні строга караліся. Замест лацінскіх літараў для літоўскіх кнігаў была прыдуманая адаптацыя кірыліцай, або інакш гражданка. Яе прыдумаў Станіслаў Мікуцкі. Тагачасныя навукоўцы яго недалюблівалі - славіст ды этнограф Яўхім Карскі яго называў філёлягам-самавучкай, а лінгвіст Ян Бадуэн дэ Куртэнэ - навуковым прастытутам. Але царская ўлада і

віленскі генэрал-губернатар Мураўёў навуковыя дасягненьні цанілі значна менш, чым ляяльнасьць - Мікуцкаму было даручана ўзначаліць русыфікатарскую кампанію па выданьні літоўскіх кніг гражданкай.

У друкарні Кіркора выходзіць першая такая літоўская кніга, літоўска-жамойцкі лемантар: Абецеле жемайтишкай-лѣтувишка. Віленскія патрыёты Кіркора  за ляяльныя да царскай улады выданьні моцна крытыкавалі. Але наўрад ці ў яго быў выбар, друкаваць такія кнігі ці не. У гады паўстаньня ўлады ім самім цікавіліся — адзін з кіраўнікоў паўстаньня Рамуальд Траўгутт хаваўся ў кватэры яго жонкі ў Варшаве. Доўга ва ўлюбёнай Вільні Кіркор не пратрымаўся. Праз тры гады пасьля выхаду "Абэцэлі" ён пакідае горад назаўжды.

Усяго за саракагадовую забарону друку ў Вільні літоўскай гражданкай выйшла 12 кніг.

У Малой Літве - населеных літоўцамі землях па іншы бок Нёману, якія тады належалі Прусіі, за гэты час літоўскімі літарамі было выдадзена каля шасьцісот.

А кнігі гэтыя кантрабандай вазілі праз мяжу кніганошы - але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.



## 5.ДРУКАРНЯ МАРЦІНА КУХТЫ

Месца: Totorių g. 20

Самая вялікая літоўская друкарня свайго часу. Калі быў атрыманы дазвол друкаваць літоўскімі літарамі, Марцін Кухта з дапамогай Пятра Вілейшыса адкрыў першую літоўскую друкарню, дзе выдаваў першую штодзённую газэту на літоўскай мове — "Віленскія навіны" (Vilniaus žinios). А ў 1918 годзе ў газэце "Рэха Літвы" (Lietuvos Aidas) надрукаваў дэклярацыю аб незалежнасьці Літвы — за што быў арыштаваны, а выдавецтва зачынена. Кухта не здаўся, а выйшаўшы на волю заснаваў новую друкарню "Маяк" (Švyturys). З гэтай друкарняй ён у гады, калі Вільня належала палякам, пераехаў у тагачасную літоўскую сталіцу Коўню, дзе друкарня набыла шмат сучасных друкарскіх прыладаў. З пункту гледжаньня бізнэсу лёс друкарні склаўся няўдала — яе гаспадар занадта давяраў калегам. У канцы 1930-х гадоў друкарня збанкрутавала. Але, як любяць казаць літоўцы, няма таго дрэннага, што на дабро не выходзіць — гэта выратавала Марціна Кухту ад савецкіх рэпрэсыяў. "Маяк" з цягам часу замяніла новая друкарня — "Прамень"; гэтая існавала аж да 2009 года.

Дарэчы, праца Марціна Кухты ў Вільні не абмяжоўвалася літоўскімі кнігамі: ён друкаваў кнігі і на беларускай, і на расейскай, і на польскай мовах. З 1906 года тут выдавалася першая беларуская газэта "Наша ніва". Выдавец вельмі клапаціўся аб гэтай газэце, дазваляючы ў цяжкія фінансавыя часы друкаваць нумары ў

крэдыт. Дапамагаў ён таксама захоўваць і распаўсюджваць канфіскаваныя нумары газэты, якія не прапускала цэнзура тады яшчэ царскіх уладаў. Газэта тут выдавалася да 1915 года. Акрамя Нашай нівы, друкарня выпусьціла шэраг беларускіх кнігаў, у тым ліку зборнік вершаў Максіма Багдановіча "Вянок". Багдановіч гасьцяваў у Вільні ў 1911 годзе, і вось як апісаў свае ўражаньні:

Ліхтарняў сьвет у сіняй вышыне…
Вітрынамі зіяючыя крамы,
Кавярні, мора вывесак, як плямы,
Анонсы і плякаты на сьцяне.

Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суюшчыя рэклямы…
Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы…
Грук, гоман, гул, — усё ракой імкне.

А дальш — за радам кас, ламбардаў, банкаў, —
Агні вакзала… павадка фурманкаў…
Віры людзей… сіпяшчы паравоз…

Зялёны семафор… пакгауз… склады…
Заводаў коміны пад цьмой нябёс…
О, горада чароўныя прынады!

# 6.ГАБРЭЙСКІ ДРУК У ВІЛЬНІ

Месца: M. Antokolskio g. 3 у двары вуліцы Vokiečių

Спынімся тут, ля дома, які калісьці зваўся домам скульптара Марка Антакольскага — цяпер яго імя носіць уся вуліца. Мы знаходзімся ў старым габрэйскім квартале. У 1941 годзе тут было створана Віленскае гета, якое за чатыры месяцы забрала больш за 33 тысячы жыцьцяў габрэяў горада. 20 тысяч астатніх жыхароў гета ў 1943 годзе, у год ліквідацыі гета былі адпраўленыя ў канцэнтрацыйныя лягеры або забітыя ў віленскім прадмесьці Панарах.

Да Другой сусьветнай вайны габрэйскі друк у Вільні квітнеў. На сучаснай вуліцы Strazdelio працавала вялізная і слынная друкарня роду Роммаў. Роммы былі сапраўднай дынастыяй друкароў, якія мелі свой друкарскі бізнэс амаль паўтара стагодзьдзя. У часы царскай акупацыі гэта была самая сучасная габрэйская друкарня ў імпэрыі. Праўда, ва ўсёй імпэрыі іх было толькі тры, пакуль у 1862 годзе не былі адмененыя законы, якія забаранялі габрэям вольна адкрываць свае друкарні. У XX стагодзьдзі з віленскіх габрэйскіх друкарняў плыла як рэлігійная, так і мастацкая літаратура як на ідышы, так і на іўрыце. Друкарня Роммаў у 1940-я гады была прыватызаваная саветамі. Яе гістарычны будынак некалькі гадоў таму быў зьнішчаны ў выніку шараговых сучасных рэканструкцыяў.

Але гэтая гісторыя пра нашмат больш сьціплую друкарню, друкарню аднаго чалавека.

У часы гета дваццацідвухгадовы Ісак Кавальскі стварыў падпольную габрэйскую друкарню. Гэтае рамяство яму было знаёмае зь дзяцінства: яго бацькі ў Вільні мелі друкарню, якая ў асноўным выдавала газэты, — яна была якраз у гэтым доме. У сваіх успамінах ён распавядаў, што пасьля таго, як немцы сагналі габрэяў у гета, ён дамовіўся з дырэктарам літоўскай друкарні "Сьвітанак" (Aušra) Шкемай аб дазволе яму працаваць у гэтай друкарні. У той час габрэяў браць на працу было забаронена, але яны прыдумалі прадставіць Кавальскага як незаменнага спэцыяліста — немцам давялося зрабіць выключэньне.

У пачатку нямецкай акупацыі ўсе газэты ў Вільні былі зьнішчаныя, іх месца занялі нямецкія прапагандысцкія выданьні. Кавальскі ў сваю чаргу імкнуўся стварыць альтэрнатыву, якая б інфармавала людзей пра тое, што насамрэч адбываецца з віленскімі габрэямі, і заахвоціла б віленчукоў антысэміцкіх поглядаў пераасэнсаваць свае перакананьні. І такія, дарэчы, былі, і выдавалі сваю падпольную газэту, натуральна, заахвочваючы антысэмітызм і асуджаючы газэту, якую выдаваў Кавальскі.
Урэшце ён навучыўся хавацца так добра, што здолеў пабудаваць запасную друкарню ў самім геце. Друкаваў Кавальскі ня толькі газэты, але і падробленыя харчовыя талёны, што ня толькі ўзмацняла хаос у нямецкай інфраструктуры, але і давала магчымасьць зарабляць грошы на друк і зброю, прадаючы тое атрыманае харчаваньне.

Друкарскае рамяство патрабуе ня толькі тэхнічных ведаў, але і бясконцай мужнасьці.

# 7.ПАДПОЛЬНЫ ДРУК  У САВЕЦКІЯ ЧАСЫ

Месца: Ня важна. Чаму? Чытайце далей.

Ужо чарговыя для віленчукоў дзесяцігодзьдзі цэнзуры. У савецкі час прэса сапраўды пашырылася — акупацыйнай прапагандзе патрэбныя былі каналы распаўсюду. Разьвіваюцца і тэхнічныя магчымасьці: пасьля адмены хрушчоўскіх законаў аб тым, што друкарскую машынку можна было мець толькі яе зарэгістраваўшы, яны становяцца штодзённасьцю на прадпрыемствах і ў кватэрах. Зьяўляюцца першыя прылады фотакапіяваньня. Віленчукі ўмеюць імі карыстацца. У апублікаваных дакумантах мясцовага КДБ мы знаходзім дзясяткі пратаколаў аб падпольным друку. Самым цяжкім часам для супрацоўнікаў КДБ быў люты — год за годам, адзначаючы Дзень Незалежнасьці Літвы, местакі расклейвалі вуліцы фотакопіямі ўлётак або трафарэтнымі плякатамі.

Фотакапіяваньне дазволіла вырабляць больш за сотню такіх улётак. Друкарская машынка іх рабіла ананімнымі. Кароткія тэксты супрацоўнікам КДБ часта не ўдавалася прывязаць да канкрэтнай прылады, але ня ўсім шанцавала застацца невядомымі. Гэта ня стрымвала наступныя пакаленьні дысыдэнтаў. Больш доўгія творы не атрымоўвалася фотакапіяваць, таму для друкаваньня і перадруку тэкстаў выкарыстоўвалі капіявальную паперу.

У розныя часы савецкай акупацыі ў Літве працавалі дзясяткі малюсенькіх падпольных друкарняў (як паедзеце калі ў Коўню, заплянуйце наведаць друкарню АБ, якая працавала даўжэй за ўсіх, а цяпер працуе як музэй). Але гэтая гісторыя ў пэўным сэнсе пра канец эпохі друкарняў. XX стагодзьдзе было поўнае тэхнічных інавацыяў, і ў гэтым кантэксьце галоўнай з іх стала радыё. У Вільні было чуваць Голас Амэрыкі, BBC, Ватыканскае радыё ды іншыя радыёстанцыі, а ў студзені 1975 г. з Мюнхэна радыё хвалямі плыве першая літоўская праграма "Радыё Свабодная Эўропа", беларусам добра знаёмая як Радыё Свабода. Увогуле, такі спосаб распаўсюду і атрыманьня інфармацыі быў значна больш бясьпечны за падпольную прэсу - распаўсюджаны з-за мяжы, не пакідаючы рэчавых доказаў. Заставалася толькі знайсьці прыватнасьць — да Вільні навушнікі дойдуць яшчэ ня хутка... Пратаколы праслухоўваньня замежных радыёстанцыяў таксама ёсьць у архіве КДБ.

Я казала пра канец эпохі друкарняў, так? Жартавала.

Адразу пасьля аднаўленьня незалежнасьці яны адрадзіліся сотнямі.



# НА ЗАВЯРШЭНЬНЕ ШПАЦЫРУ...

Сучасныя друкарні - далёка за межамі старога гораду. Цяперашнія тэхналёгіі патрабуюць вялізнай прасторы для моцных апаратаў лічбавага ды афсэтнага друку, а транспартная інфраструктура дазваляе лёгка да гэтых друкарняў дабрацца.

Тут ня будзе гісторыі сучасных друкарняў - бо пішам яе мы самі, будучы спажыўцамі іх твораў. Сьледам свайго чытаньня гэтую гісторыю мы пішам кожны сваю.

Якую гісторыю пішаце вы?



Хацелі бы падзяліцца ўражаньнямі ад шпацыру, дазнацца пра бібліяграфію гэтай кніжачкі ці што спытаць? Напішыце нам па адрэсе hello@vilnia.com. Або сябруйце з намі ў сацыяльных сетках - у інстаграме ды фэйсбуку нас можна знайсьці, пашукаўшы @lutskevichmuseum.

**ДЗЯКУЙ, ШТО ПРАГУЛЯЛІСЯ З НАМІ! НАМ БУДЗЕ ВЕЛЬМІ РАДАСНА, КАЛІ З ВАМІ ГЭТЫЯ ГІСТОРЫІ ДАЛЕЙ БУДУЦЬ ВАНДРАВАЦЬ ДА ВАШЫХ СЯБРОЎ І ЗНАЁМЫХ.**





Тэкст падрыхтавала
Паўліна Вітушчанка,
малюнкі Ільі Магіна

Праект як частку абвешчанага Літоўскай дзяржавай году Скарыны падтрымаў Дэпартамэнт нацыянальных меншасьцяў пры Ўрадзе Літоўскай Рэспублікі



TAUTINIŲ MAŽUMŲ DEPARTAMENTAS
PRIE LIETUVOS RESPUBLIKOS
VYRIAUSYBĖS

**ВІЛЕНСКІ БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ І.ЛУЦКЕВІЧА, 2022**
**HELLO@VILNIA.COM**